Цана асобнага нумару 10 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 45. Вільня, Серада 15 Сьнежня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ

Выходзе два разы ў тыдзень — у сераду і ў суботу нараніцы.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

**Падпіска:**
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы у двая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

**Цана абвестак:**
на 1-ай староны 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку уваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Польская „вольносьць".

Факты з беларускага жыцьця пад Польшчай рысуюць перад намі жудасны малюнак. Кожны новы год, кожны новы тыдзень, на'т кожны новы дзень прыносіць з сабой вельмі балючыя навіны. Толькі й чуеш, што там чапляецца паліцыя, там войт, там сэквэстратар, там надужыцьці, там арышты... Але гэтага мала: *Беларусаў яшчэ б'юць.*

Ужо пасьля выбараў у Сойм пачаліся сільныя рэпрэсыі. Польскія ўлады былі вельмі абураны, што Беларускі Народ аддаў свае галасы за сваіх кандыдатаў і затым пачаліся арэшты тых, якія прыймалі актыўны ўдзел у выбарах. Ня магучы спагнаць злосьць беспасярэдня з выбраных паслоў праз іх арышт, улады пачынаюць фабрыкаваць акты абвінавачаньня й дамагаюцца ад Сойму выдачы беларускіх паслоў. Калі гэта ня прынося ўладам пажаданых вынікаў, бо з беларускіх паслоў яшчэ толькі адзін пасол С. Баран засуджаны на 4 гады, з якіх ужо 3 з паловай адсядзеў, — то ўлады пачынаюць шукаць іншага выхаду. Досіць глянуць у стэнаграфічныя справаздачы з паседжаньняў Сойму, як там пабачым сьпешную прапазыцыю Беларускага Пасольскага Клюбу аб нападзе на пасла Ф. Ярэміча. Паўтара году таму назад, у Пружанах — адвечна беларускім месьце, на мітынгу дзе сабраўся беларускі народ, група ўваружаных асаднікоў пры дапамозе й папярэдняй згодзе ўладаў адважылася напасьці на прадстаўніка беларускага народу. Але што-ж на гэта адказала большасьць Сойму? Большасьць цяперашняга Сойму, зложаная з паноў і слуг, адкінула сьпешнасьць прапазыцыі Беларускага Клюбу й такім чынам, дагэтуль у Сойме не разьбіралася гэтая справа. Вось бачыш як польскі Сойм зарэагаваў на гвалт над беларускім паслом! Замест таго каб разабраць справу, каб вызначыць комісыю для правядзеньня сьледзтва й аддаць пад суд тых, якія нападалі й якія памагалі нападаць на беларускага пасла, большасьць польскага Сойму замяла справу й гэтым адобрыла злачынствы асаднікаў, бо яны належаць да польскае нацыянальнасьці.

Вось гэтая бязкарнасьць за гвалты над Беларусамі падахвочвае розных польскіх шовіністаў, асаднікоў, а найчасьцей сышчыкоў, весьці сваю нягодную работу й далей. Апошнімі днямі пачулі аб новым нападзе на паслоў, якія належылі да Беларускага Пасольскага Клюбу. Гэты напад, які адбыўся ў Бельскім павеце, у павеце дзе Палякі забараняюць пабеларуску гаварыць у ўрадовых установах, бо павет зусім далучаны да польскіх этнографічных зямель, — адбыўся з большымі вынікамі для нападаючых. На гэты раз напасьнікі добра прыгатаваліся, бо паразьбівалі паслом галовы! Што-ж рабіла паліцыя? За што яна атрымлівае пэнсыі? Чаго адумыслова перад нападам на мейсца нападу прыяжджаў заступнік старасты?

На гэтыя пытаньні нам не даюць адказу. Затое ўсе польскія газэты стараюцца яшчэ абвінаваціць пабітых паслоў. Ніводная польская газэта не адважылася выступіць проці гвалту над Беларусамі. Дзе-ж дзелася польская дэмократыя, чаму яна маўчыць, або на'т распаўсюджвае весткі атрыманыя з паліцыі, весткі якія наруку напасьнікам?

Ці можа констытуцыйная польская „вольносьць" дае Палякам поўную волю над Беларусамі, пазваляе на іх нападаць?

Адказам на гэтае апошняе пытаньне будзе становішча цэнтральных польскіх уладаў адносна да факту нападу й вынікі судовага сьледзтва.

*А. Нявернгы.*

## Прамова Чычэрына.

Нямецкая газэта „Neue Freie Presse" падае гутарку прадстаўнікоў нямецкай і замежнай прэсы з камісарам замежных спраў СССР Чычэрынам.

Прамова Чычэрына мела даволі вострый, скіраваны проці Англіі, характар. Як раз'ясьняе вядомы „Augur" Англія думае аб стварэньні адзінага фронта эўрапэйскіх гаспадарак проці СССР. Чычэрын кажа, што калі-б гэтая справа дала рэальныя наступствы, дык стварылася-б небясьпека для супакою Эўропы. Мы завём Англію, кажа Чычэрын, рабіць з намі (з саветамі) міралюбную, а яна ня хоча нават даць адказу.

„Мэта расейкай палітыкі—парабіць міралюбныя дагаворы з прыбалтыцкімі гаспадарствамі, і мы спадзяемся, што раней ці пазьней гаспадаркі гэтыя з намі паразумеюцца".

Вялікую вагу мае, паводле Чычэрына, пакт (дагавор) з Літвой. Ад наступстваў гэтага пакту залежыць супакой на ўсходзе Эўропы.

„Затое шмат цяжэй зрабіць нам згоду з Польшчай. Бо польскі ўрад мае на мэце ў адносінах да балтыцкіх гаспадарстваў, падняцца на вышыню протэктарату над імі. Гэта ёсьць балючае месца ў нашых адносінах з Польшчай. Трэба адзначыць, што мы хочам мець як найпрыязьнейшыя суседзкія адносіны да Польшчы.

„Адносіны нашы з Нямеччынай узмацняюцца, а асабліва ад таго часу, як быў зроблены бэрлінскі пакт, а крэдыты, якія адчынілі нам Немцы, выказываюць даўгавечную і глыбокую сувязь нашу ў гаспадарчым грунце.

„Таксама й адносіны нашы з Францыяй зрабіліся больш міралюбівымі, як былі дагэтуль. Але сказаць, што яны зусім сталі добрыя ня можна дзеля таго, што Францыя вядзе няпрыхільную да нас палітыку ў Румыніі й псуе нашу справу ў Італіі.

„Мяне бярэ гомэроўскі сьмех,—гавора ён далей—калі я чытаю ў газэтах, што нам трэба ўвайсьці ў Лігу Народаў, каб пазбыцца ізоляцыі (адасабленьня) і набраць даверу. Для таго, хто любе мець справу не са славамі толькі, але й з дзейнасьцю, ясна, што ўваход у Лігу не азначае набраць пэўнасьці адасабленьня, але скарэй згубіць яе. Уваход гэты ня зменшае ізоляцыі, але павялічае яе й разам з гэтым суліць залежнасьць ад іншых. Тады, калі дзяржава, якая мае ў сабе павадырскую здольнасьць, дзержыць у сваіх руках вялікаю моц да творчай працы. Саветы не дадуцца спадмануць (ашукаць) сябе.

„Мы зрабілі пакт з Турцыяй і Аўганістанам. Моцная наша дружба з Турцыяй была паказана ўсяму сьвету на з'ездзе ў Адэсе. З Персыяй мы таксама маем палепшаныя адносіны".

Зацемкава гаварыў Чычэрын аб адносінах СССР да паўднёвага ўраду Кантону ў Кітаі.

„Сусьветнае значэньне паўстаньня паўднёва-кітайскіх дэмакратаў, вядома кожнаму; сёняшні паўднёвы Кітай гэта заўтрашняя кітайская рэспубліка, і мы да яго маем сымпатыю. Нам закідаюць, што забастоўка ангельскіх вуглякопаў і крыніцы дзяржаўнага забурэньня ў Кітаі гэта — наша работа. А я кажу, — гавора Чычэрын—што калі палітычны кірунак ня хоча лічыцца з рэальнымі фактамі, дык у будучыне з яго нічога ня выйдзе. Сутнасьць нашае палітыкі, тады калі ў нас выяўляецца ўнутраны ўзрост гаспадарства, гэта — мець супакой са ўсімі дзяржавамі. Першай дзяржавай на гэтай дарозе ў адносінах да нас стаіць Нямеччына.

Калі прадстаўнікі прэсы запыталіся Чычэрына аб вестках, што падаваў „Manchester Guardian" (гл. „Сял. Ніву" № 45) ён даў адказ толькі ў трох словах: „Made in England" (зроблена ў Англіі, гэтак выбіваецца на таварах выробляных у Англіі).

На запытаньне, як ён глядзіць на ўмову ў Тоары, камісар адказаў:

„Добра, што варожыя заходнія гаспадарствы пачынаюць зблізжацца паміж сабой.

Дрэнна толькі, што француска-нямецкае зблізжэньне хочуць зраўняць з нямецка-польскімі. Апошняе кіруецца проці СССР".

Але спадзяецца ён, што Нямеччына ня прыступіць да ніякіх комбінацыяў, якія пагоршаюць добрыя адносіны з СССР.

На запытаньне аб італьянскай палітыцы на Балканах, адказ Чычэрына скіраваўся на адносіны Італіі да Румыніі. Адзначае ён, што ў адносінах СССР да Румыніі ёсьць шчэліна.

„Адзін італьянскі генэрал сказаў на афіцыяльным банкеце, што ён перш-наперш пайшоў-бы на СССР, і ў гэтым трэба відзець небяспеку для нас. У цэлай балканскай палітыцы трэба спадзявацца адваротных ударыў на далейшым усходзе.

Агрэсыўная палітыка Італьянцаў проці Турцыі паходзе, як відаць, з ангельскіх крыніцаў".

У гэтай прамове Чычэрына можна дагледзіць тое, што СССР баіцца аб'яднаньня Заходняе Эўропы, на чале з Англіяй. Аднак гэтае аб'яднаньне перадусім залежыць ад Нямеччыны.

Сувэрынітэту Польшчы над прыбалтыцкімі дзяржавамі трудна спадзявацца, бо Польшча прывыкла сварыцца з сумежнымі народамі.

*Л. Залежнік.*

## Падавайце дэклярацыі!

Хто хоча лепшай долі для сваіх дзетак, хто хоча каб Беларусы вызваліліся з цемры беднаты і гора, нехай скарэй падае дэклярацыі на беларускую школу. Тэрмін для складаньня дэклярацыяў канчаецца 31-га сьнежня с. г.

**Дык бардзей падавайце дэклярацыі на беларускую школу!**

Дэклярацыі можна выпісаць з Вільні:

1) Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры — Вільня, Завальная 7.

2) Т-ва Беларускай Школы — Вільня, сьв. Анны 2.

# З ГАЗЭТ.

### „Беларусы прыціскаюць Палякаў“.

Скінуты Пілсудскім міністр Ст. Грабскі, добра нам вядомы польскі шовіністы, які душыў Беларусаў, пазычыніў беларускія школы, які накладаў штрафы на Беларусаў, садзіў разам з іншымі польскіміураднікамі беларускіх вучыцялёў у вастрог, у „Газэце Варшаўскай“ напісаў артыкул пад загалоўкам: „Палякі ў польскай дзяржаве“. У гэтым артыкуле Ст. Грабскі асьмеліваецца даводзіць, што на аснове трактату (Версальскага) Беларусы, Украінцы, Літоўцы, Немцы й Жыды маюць у Польшчы лепшыя правы як самі палякі. Дзеля гэтага дасужы Грабскі прапануе адабраць ад Беларусаў і іншых меншасьцяў трохі гэтых праваў на карысьць Палякаў. Ён хоча завясьці кур'яльную сыстэму пры выбарах у Сойм і Сэнат, а таксама й пры выбарах у Самаўрады.

Вось дык сумленьне б. польскага міністра!

# З Незалежнае Літвы.

### Прамова пасла Кайрыса.

У Літоўскім парлямэнце надовячы віцэмаршалак Кайрыс у сваей прамове закрануў справу адносінаў з Польшчаю. Ён сказаў, што на адносіны Літвы з Польшчай у літоўцаў істнуюць заўсёдныя традыцыйныя пагляды. „Заўсёды будзем помніць што палякі гвалтам забралі Віленшчыну. У кожным адпаведным выпадку, усюды паўтараем, што палякі зламалі сувальскі дагавор, што Польшча ёсьць няпэўным контрагэнтам, што пакрыўдзіла нас і што ня хочым з ёй мець ніякіх, ані палітычных, ані экономічных зносінаў. Мы адгарадзіліся ад яе, а прынамсі стараемся адгарадзіцца кітайскім мурам і ня толькі ня хочам бачыць Польшчы, але нават няхочам нічога аб ёй чуць.

# НАВІНЫ.

**Пасол Рагуля ў Вільні.** Надовячы разам з ангельскімі госьцямі прыяжджаў у Вільню Старшыня Цэнтральнага Камітэту Беларускага Сялянскага Саюзу п. Б. Рагуля.

Паміж іншымі справамі Старшыня адбыў конфэрэнцыю з другімі сябрамі Цэнтральнага Камітэту ў справах Саюзу.

**Ангельскія паслы ў Вілні.** У суботу раніцай прыяжджалі ў Вільню два прадстаўнікі англіцкай партыі працы паслы Арт. Шэфэрд і Джон Бэкет. Паслы пасьнедалі ў прыватнай кватэры разам з прадстаўнікамі беларускіх партыяў: Сялянскага Саюзу, Грамады й Белар. Хрысьць. Дэмократы. Пасьля ангельскія госьці былі на Лукішках у вастрозе, дзе пазнаёміліся з варункамі, у якіх знаходзяцца вязьні.

Паслы цікавіліся палітычнымі вязьнямі, дапытываліся іх аб падрабязнасьцях апошняй галадоўкі. Ангельскія паслы былі таксама ў Беларускай гімназіі.

Вечарам Літоўцы прыймалі гасьцей абедам.

А 10 гадзіне паслы выехалі ў Варшаву.

**Галадоўка вязьняў трывае далей.** Галадоўка палітычных вязьняў на Лукішках трывае далей. Пракурор Штайнман выясьняе, што на Лукішках ёсьць 147 палітычных вязьняў і што ўлады ня могуць згадзіцца на постуляты высунутыя вязьнямі. Дзеля таго, што вязьні не перастаюць галадаваць, вастрожныя ўлады пачалі ўжо штучна іх карміць.

**Дэмонстрацыя перад вастрогам.** На Лукішках перад вастрогам у часе як англіцкія паслы былі ў вастрозе адбывалася дэмонстрацыя. Дэмонстранты дамагаліся звальненьня палітычных вязьняў, зямлі бяз выкупу для сялян, скасаваньня кары сьмерці й царскага карнага кодэксу.

На Лукіскім рынку да дэмонстрантаў прычапілася конная пыліцыя, якая хацела разагнаць іх. Паміж паліцыяй і дэмонстрантамі завязалася бойка, у якой паліцыю закідалі каменьнямі а падкамісару сарвалі шаблю. Як з аднаго, так і з другога боку ёсьць шмат лёгка раненых. На помач паліцыі прыехала паліцыйная школа. У рэзультаце дэмонстрацыя была зьліквідавана; паліцыя заарыштавала 18 асоб.

**Пазыка для Вільні** Польскія газэты пішуць, што адна англіцкая фірма хоча пазычыць Магістрату м. Вільні 10 мільёнаў даляраў.

**Часовыя пашпарты для быўшых расейцаў, (паводле „Zeit“ ад 7.XII).** Ад 1 студня 1927 года ўваходзе ў жыцьцё ўстава аб чужаземцах. Газэта даведалася, што гэта ўстава ня робіць небясьпекі для тых чужаземцаў, якія знайшліся ў Польшчы легальнай дарогай. Расейцаў урад маніцца прыраўнаваць да іншых чужаземцаў, каторыя маюць консульскую апеку. Ім дадуць часовыя пашпарты і дазвол на вольнае места пасяленьня.

**Ізноў уводзяцца экспозытуры палітычнай паліцыі.** „Kurjer Wileński“ піша, што ён у адным са сваіх папярэдніх нумараў падаваў вестку аб распараджэньні міністра ўнутраных справаў аб скасаваньні экспозытуры палітычнай паліцыі.

Але распараджэньне міністра было недоўгавечнае, бо экспозытуры борзда ізноў будуць арганізаваны.

# З Польшчы.

### У СОЙМЕ.

Ў пятніцу 10 г. м. адбылося паседжаньне Сойму, якое трывала ўсяго адну гадзіну. На паседжаньні першае пытаньне праекту бюджэту на першую квадру 1927 г. адбылося зусім бяз дыскусыі.

### Прэсавы дэкрэт скасаваны.

Сойм у пятніцу аднагалосна прыняў ўставу аб скасаваньні прэсавага дэкрэту, выданага Прэзыдэнтам. Устава мае ўвайсьці ў жыцьцё ад 1 студня 1927 г.

Вось у гэтым дык ураду Пілсудскага вельмі не павязло. Выдаў першы дэкрэт і той Сойм скасаваў. Калі ўрад Пілсудскага далей будзе выдаваць падобныя дэкрэты дык можна будзе спадзевацца вялікага конфлікту між урадам і Соймам.

Пры такім конфлікце паляціць урад, або будзе разьвязаны Сойм.

### Пропозыцыя ў справе нападу на беларускіх паслоў.

На паседжаньні Сойму беларускія клюбы падалі пропозыцыю ў справе нападу на паслоў Мятлу й Валошына. Як заўсёды, польская большасьць Сойму адкінула сьпешнасьць пропозыцыі й затым пропозыцыя пайшла ў адміністрацыйную комісыю як звычайная. У сувязі з пропозыцыяй у Сойме паўстала бура. Маршалак Сойму мусіў аж перарваць паседжаньне.

Як бачым, польскі Сойм праз пальцы глядзіць на тое, як сышчыкі й іншыя арганізованыя банды нападаюць на беларускіх паслоў.

### Чарговае паседжаньне Сойму.

Чарговае паседжаньне Сойму вызначана на 14-га сьнежня а 3 гадзіне.

Парадак дня:

1. Справаздача бюджэтнай комісыі аб трохмесячным бюджэце;
2. Справаздача скарбовай комісыі ў справе дадатковага падатку на пакрыцьцё валасных дэфіцытаў і
3. Справаздача адміністрацыйнае комісыі ў справе мэтрык цывільнага стану.

### Адстаўка міністра Мэйштовіча.

Ходзяць гуткі, што міністр Справядлівасьці Мэйштовіч борзда пойдзе ў дымісыю, бо вельмі скомпромітаваўся сваім прэсавым дэкрэтам.

### Фальшывыя грошы.

Польскі Банк паведамляе, што зьявіліся фальшывыя банкноты ў 20 зл. Фальшывыя грошы можна пазнаць так: Дата на іх „15 lipca 1924 г.“, папера горшая і грубейшая, хварба ясьнейшая, ня добра выраблены друк слоў „Prezes Banku“, „Naczelny Dyrektor“ і „Skarbnik“; не такія як ў праўдзівых білетах лічбы нумару; вока і дзюба арла зроблены іначай.

### Сышчыкі на варшаўскай пошце.

Газэта „Warszawianka“ піша, што агент нямецкай газэты „Vossische Zeitnng“ 8.XII. с. г. падаў наступную вестку:

Опозыцыя правых соймавых колаў зьвярнулася да ўраду з інтэрпэляцыяй у справе падслухаваньня сэкрэтаў па тэлефоне і тэлеграфе, якое з'яўляецца нарушэньнем констытуцыі. Паслы з бюджэтнай комісыі даведаліся, што на пошце знаходзіцца т. зв. „чорны габінэт“ для падслухаваньня прыватных і ўрадовых разгавораў праз тэлефон.

У гэтым „чорным габінэце“ знаходзяцца агенты палітычнай паліцыі, якія падслуханую гутарку запісваюць у асобную кніжку.

Прадстаўнік ураду адгаварываўся, што

---

На апрычоную пахвалу заслугваюць „*Буслы*“ патаёмная гісторыя птушанага міру, спрытна зьвязаная з надзеямі дзьвюх кахаючыхся людзкіх сэрцаў, а гэтак-жа канцавы верш аддзелу п. н. „*Першы сьнег*“ (ст. 183), дзе ў пачатку знаходзім гэткі дасканальны, настраёвы апіс першага сьнегу:

„Халоднай пабелай магільна залёг
„На зжатае поле, на скошаны лог.
„Лёг пухам па лесе, на жоўтых
[лісьцях
„Абсеяў, абсыпаў прысады і шлях.
„Так высыпаў зьзябна, бязрадасна
[сьнег
„У першы папас свой, у першы
[начлег“...

*Апошні VI-ты аддзел зборніку займаюць вершы гумарыстычныя.*

У аддзеле гэтым, шмат больш абшырным чымся аналёгічны аддзел папярэдняга зборніку, Купала выступае прад намі як здольны гумарысты, баепіс і сатырык.

Большую частку аддзелу займаюць, прымітыўныя, маралізуючыя мужыка вершы з сялянскага быту; рэшта — прысьвячана байкам і жартам палітычнага характару, датычачым пераважна прадваенных, царскіх часоў і тады-ж пісаных.

З першае групы вершаў (на матывы вясковыя), вызначмы гэткія як: „*Тутэйшы*“ (ст 194) са зместам трагікомічным; „*Няма грошы*“ (ст. 196), поўны едкай іроніі; забаўнае „*Ня ўсе дома*“ (ст. 193), апісуючае прыкладнага, сьветлага селяніна, якога даўгі час ганіць цёмны агул роднае вёскі; свавольныя „*Кацярына*“ (ст. 203) і „*Прыпеўка*“ (ст. 204), ўрэсьце сьмяхотнае „*Дзе ня кінь—дык клін*! (ст. 207) і „*На ўсе рукі*“ (ст. 215).

З другой групы вершаў (байкі), асабліва добрым ёсьць: „*Асёл і яго цень*“ (ст. 212) і „*Селянін і конь* (ст. 211).

З групы трэцяе (жарты й байкі характару палітычнага) трэ' тут спыніцца над гэткімі творамі як: байка „*Лякарства*“ (ст. 206) і „*Чын, гэрб і лапаць*“ (ст. 214). З іншых вершаў гэтага аддзелу, не падыходзячых да аніводнае з трох вышэпамянутых групаў, адзначым гэткія як: жартаўлівая „*Паэзія*“ (ст. 188) і арыгінальны „*Буралом*“ (ст. 208).

Вось для прыкладу, адзін з вершаў гэтага аддзелу п. н. „*На ўсе рукі*“,—поўны едкага сарказму сатыра, датычачы беларускіх адносінаў у прадваенныя часы і малючая нам тып ня ў меру „спрытнага“ беларускага селяніна.

„Ён з начальствам знае дзела:
„Парасейску валіць сьмела;
„Ліжа, выйшаўшы за вёску,
„Ласку панскую папольску.
„Нават жыду — ў доўг як просе —
„Гутэ-моргэн!“ — буркне ў носе, —
„Калі-ж сядзе у катузку,
„Ўсіх кляне пабеларуску!“

Канчаючы гэтым агляд „*Спадчыны*“, дазволім тут сабе зьвярнуць увагу на яшчэ адно толькі зьявішчэ, датычачае ўсяго гэтага зборніку.

Справа ў тым, што, як мы ўжо аб гэтым спаміналі ў „*Спадчыне*“, зьмешчаны ня толькі вершы за апошні перыод творства (ад выданьня зборніку „*Шляхам жыцьця*“) але й ня выдрукаваныя раней, з тых ці іншых прычынаў, вершы, усіх папярэдніх пэрыодаў, якія сваім мастацкім і літэратурным роўнем шмат рожняцца ад апошніх твораў песьняра.

Вось-жа было-б вельмі нажаданым, з пункту гледжаньня эстэтыі й пэўнага літэратурнага прагматызму, каб у новых выданьнях гэтых зборнікаў, (а ласьне праектуецца ў Менску юбілейнае выданьне ўсіх твораў Купалы!) *адабраць увесь гэны бальляст са „Спадчыны“* і на падставе хронолёгічных даных далучыць яго да адпаведных, папярэдніх зборнікаў песьняра.

Аб гэтым павінен паклапаціцца ў першую чаргу сам аўтар.

*Я. Сьветазар.*

---

**Спраставаньне:** У папярэдняй частцы нашага агляду (глядзі „Сял. Ніва“ № 40 з 27.XI 1926 г.), прысьвячанай аддзелу IV „Спадчыны“ (вершы любоўныя), дзякуючы друкарскай абмылцы, аказалася зусім пераблутанай цэльная фраза (глядзі 2-гі стаўбец; радкі ад 7-га да 11-га ўключна).

*Абмылкова выдрукавана*: „З асобных абразоў трэ' адцеміць І-шы „*Стрэча*“, у якім добра адмаляваны спрадвечная ўзаемная да сябе цяга мужчыны згодна з ненарушнымі законамі прыроды, толькі разам творучых сынтэзы чалавека“.

*Мае быць*: „З асобных абразоў трэ адцеміць І-шы „*Стрэча*“, у якім добра адмалявана спрадвечная, ўзаемная да сябе цяга мужчыны і жанчыны, згодна з непарушнымі законамі прыроды, толькі разам творучых сынтэз чалавека“.

яму аб гэтым габінэце нічога невядома й што падслухаваньне даўно скасавана. Але пракаваць паслоў яму ня ўдалося.

„Скажу праўду,—піша далей агент—што ня гледзячы на запярэчэньне ўраду я ведаю, што падслухаваньне вядзецца ня толькі проці паслоў, але й проці прэсавых агентаў, у чым сам праканаўся“.

### Павышэньне мытнай тарыфы.

Варшаўская прэсавая інформацыя прысылае наступныя весткі:

Каб зменшыць увоз заграннічных тавараў у колах урадовых становіцца актуальнай справа падвышэньня мытнай тарыфы на заграннічныя тавары.

Падвышка мае абняць некаторыя гатовыя тавары і сырыя матэр'ялы.

Ёсьць ведама, што ад гэтага дарагоўля ў Польшчы яшчэ больш падымецца.

### Забарона зывозіць збожжа.

Ходзяць чуткі, што ўрад мае забараніць вывозіць збожжа заграніцу, каб пасьля вясной самому не справаджаваць чужой мукі.

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Нямеччына выйгрывае, ваенны контроль скасаваны.

У Жэнэве Рада Лігі Народаў пастанавіла скасаваць ваенны контроль над Нямеччынай. Контроль мае быць скасаваны ад 1-га лютага 1927 году.

### Новы падзел.

Чэхаславацкая газэта „Народні Політіка“ піша аб небясьпецы, якая пагражае Польшчы й Чэхаславакіі з боку палітыкі Нямеччыны й Расеі. Паводле аўтара артыкулу, Нямеччына й Расея, прыгатаўляюць новы падзел Польшчы.

### Палёгкі ў справе выезду ў Амэрыку.

Амэрыканскі міністар працы Давіс і йміграцыйны комісар Галь запропанавалі Конгрэсу, які пачаўся ў панядзелак, зьмяніць іміграцыйную ўставу.

Зьмена мае на мэце аблягчыць справу прыезду да Амэрыкі мужоў, якія разлучаны з жонкамі.

Праект зьмены таксама палягчае легалізацыю тых, якія ўжо прыехалі ў Амэрыку, але ня маюць формальнага дазволу на прыезд.

### Канадзкія дыплёматычныя прадстаўнікі ў Эўропе.

Канада хоча назначыць сваіх дыплёматычных прадстаўнікоў у важнейшыя места Эўропы незалежна ад Англіі. Такога незалежнага прадстаўніка яна ўжо мае ў Нью-Ёрку. Першым местам у Эўропе, што атрымае канадзкага прадстаўніка будзе мусіць Парыж.

### Аўстралійскі дыплёматычны прадстаўнік у Вашынгтоне.

Аўстралія таксама зьбіраецца номінаваць свайго паўнамоцвага незалежнага прадстаўніка ў Амэрыку.

### З Нямеччыны.

На апошнім паседжаньні бюджэтнай комісыі ў парлямэнце абгаварываўся дадатковы бюджэт. Комісыя прызвала 200 мільёнаў марак на будову малых дамоў для бяднейшых клясай.

## Гаспадарскі аддзел.

### Аб новых способах польнай гаспадаркі.

Разглядаючы пытаньне аб тым, як паўстала земляробства, як яно вялося ў старадаўныя часы і як яно мянялася ў працягу доўгага часу свайго істнаваньня,—навука прыходзіць да вываду, што выбар таго ці іншага способу вядзеньня гаспадаркі залежыць не ад самога гаспадара, а ад тых варункаў, якія істнуюць у гэтай мясцовасьці. Яна залежыць ад гушчыні насяленьня, ад большага ці меншага зямельнага прастору, ад цаны на зямлю й на хлеб, ад ураджайнасьці грунту й шмат яшчэ ад іншых прычын, з якімі мусіць мець да чыненьня земляроб. А дзеля таго, што гэтыя варункі нясталыя, а з працягам часу мяняюцца, дык разам з імі павінны мяняцца й способы вядзеньня гаспадаркі. Адзін і той самы способ зусім адпаведны й выгадны ў свой час можаць стаць зусім шкодным цераз некалькі гадоў.

Вось чаму, бачучы тую галіту й тае бязхлеб'я, у якім апынулася наша сялянства (галоўным чынам дзеля недахвату зямлі) нельга не падумаць аб тым, як скарэй замяніць трохпольны способ земляробства, які паўстаў ужо некалькі сотняў гадоў таму назад, многа-польным.

Быў некалі час, калі і трохпольле было найлепшай сыстэмай польнай гаспадаркі, але гэта было тады, калі гушчыня насяленьня была шмат меншая, а зямельны прастор шмат большы, калі цана на ворную зямлю была надта нізкая, а пасьвішчы й сенажаці былі амаль-што зусім дармавыя.

Ці трэба яшчэ казаць аб тым, што цяпер варункі зусім іншыя?!

Недахватак зямлі і ўсё растучая гушчыня насяленьня, прымусіла падняць кожны кусок, які толькі больш-менш надаецца пад пашню. Можна напаткаць ужо такія гаспадаркі, якія амаль-што зусім ня маюць сваіх сенажацяў й пазьбішчаў, а змушаны займаць іх на старане за досыць высокую плату. Дзякуючы раcпашцы пасьвішчаў і выганаў, сяляне ня могуць мець лішней скаціны, а разам з тым і патрэбнай колькасьці гною для ўгнойваньня ворнай зямлі. Адсюль няма нічога дзіўнага, што ўраджаі на сялянскай трохпольнай гаспадарцы надта няцікавыя й звычайна не перавышаюць самтры для жыта й сам-два для аўса. Праводзячы трохпольную гаспадарку, нашы земляробы маюць страты й ад недабору ўраджаю і ад таго, што трэцяя частка ворнай зямлі дарма ляжыць пад папарам і нарэшце маюць яшчэ ўбыткі ад сваей скаціны, якая ня можа даць карысьці дзеля таго, што зімы й лета не даедаець. Так што аб прыгоднасьці ў нашыя часы трохпольля ня можа быць і рэчы, і каб хоць троха падняць сво дабрабыт наша сялянства павінна зусім адказацца ад старога, аджыўшага свой век, способу праваджаньня гаспадаркі, а шукаць новых способаў, болей адпаведных сучасным варункам. А гэтыя способы ўжо даўно знайдзены практычнымі знаючымі гаспадарамі, так што нам застаецца толькі з іх скарыстаць.

Большая частка сялянства ў Заходняе Беларусі ўжо перайшло на мнагапольную гаспадарку.

Якія-ж гэта новыя способы?

Практычныя і вучоныя гаспадары праканаліся, што пасевам аднаго збожа й трохпольнай гаспадаркай цяпер не пражывеш. Яны знайшлі, што замест таго каб біцца з рознымі перашкодамі, якія бываюць пры трохпольлі ад недахватка корму, шмат ляпей завясьці на полі разам з збожжам і пасеў травы на корм скаціне. Замест трохпольля з пасевам толькі адных зярнёвых хлябоў, яны завялі ў сябе шматпольле, вызначыўшы адны палеткі пад пасеў збожа, другія пад кармовыя травы, пераважна канюшыну з цімафейкай.

Якая-ж карысьць ад такога новага способу гаспадаркі?

Самая галоўная й прытым для кожнага зразумелая карысьць ад палявога травасеву ёсьць тая, што з кожнай дзесяціны можна мець два гады ў падрад ад 200 да 400 пудоў найлепшага корму. Пры гэтакай колькасьці лішняга корму, селянін ня толькі лепей пракорміць сваю худобу, але й зможаць прагадаваць яшчэ адну-другую штуку скаціны· А кожная лішняя скацінка ня толькі палепшыць дабрабыт селянскай сям'і, але дасьць яшчэ й гной, так патрэбны для нашых грунтаў. Немалую карысьць яшчэ гаспадар будзець мець і ад лёну, які надта добра расьцець на· канюшнішчы. А лён даець амаль-што самы найбольшы даход. Трэба ведаць яшчэ, што даючы гэткую карысьць земляробу, палявы травасеў нятолькі не бядніць грунтаў, а наадварот пасеў такой травы, як канюшына, спрыяець толькі павялічаньню пладароднасьці грунту. Дзеля таго, што пры правільным травасеву часьць зямлі адбіраецца з пад хлеба пад траву, то некаторыя баяцца, што паменшыцца хлеба. Гэтак думаюць зусім напрасна. Праўда, пры пасеву траў прыходзіцца дзяліць пашню не на тры полі, а на болей, то хлебнае поле павінна паменшыцца ў параўнаваньні з трохпольлем. Але справа ў тым, што хоць хлебнае поле цяпер будзе меншае, затое яно будзець шмат лепей узгноена. На гэту частку пашні пападзець ня толькі ўвесь ранейшы гной, але яшчэ і гной ад прыбаўленай на канюшыну скаціны. А раз зямля будзе лепей угноена, то і ўраджай будзе ў некулькі разоў большы. Апрача гэтага, як ужо было казана раней, пасеў канюшыны сам па сябе спрыяець павялічэньню пладароднасьці грунту. Дазнана напрыклад, што дзесяціна канюшыны пакідаець пасьля сябе спажыву ў грунце для наступнай расьліны роўнага вартасьці 500 пуд. хляўнога гною. Што належыцца да прастору для скаціны, дык праўда, пры правільным травасеве ён ня многа паменшаецца, дзеля таго, што папарнае поле, якое служыць у сялян пасьвішчам, будзе меншае. Але цяпер можна будзець адвясьці для пасьбы частку пушчэйшых і далейшых сенажацяў, або проста заняць дзе небудзь пашу на старане.

Трэба толькі ведаць, што *поўныя выгады палявога травасеву можна атрымаць толькі тады, калі строга будуць захоўвывацца пэўныя правілы й парадкі.* Сеяць канюшыну на полі, калі толькі поля, як у нас, разьбіта на тры палеткі, няма дзе.

Бачучы вялікую карысьць ад травасеву, у некатарых мясцовасьцях сяляне пачалі сеяць канюшыну ў сябе. Не нарушаючы старых парадкаў сяляне стараліся прытарнаваць травасеў да свайго трохпольля. Адны вёскі сталі сеяць канюшыну ў гародах, другія на задніх шнурох, трэція выдзялялі пад канюшыну асобны кусок зямлі, але з усяго гэтага толку выходзіла мала. Каб ад травасеву мець поўную карысьць трэба: 1) каб чарадаваньне пасеваў канюшыны са збожжам было сталым і пры тым такое, каб канюшына не варочалася на старое месца раней як цераз 5 год; 2) каб пасеў травы не пераходзіў з поля на поле без перарыву; 3) каб пад травой была занята што год аднолькавая частка пахаты, каб колькасьць корму была тая самая; 4) каб ураджаі ярыны й жыта што год былі роўныя; 5) каб на кожнае поле было зручна ганяць скаціну.

Выканаць усе гэтыя правілы пры трохпольлі немагчыма, а дзеля гэтага, заводзячы новы способ гаспадаркі, прыхоцзіцца перш-наперш павялічываць лік палетак, інакш кажучы з трохпольля перахадзіць на шматпольле.

*Я. Пачопка.*

(Далей будзе).

## НАШАЯ ПОШТА.

**У—к** друкуем толькі адзін верш.

**Ад: Клімовічу.** Асновы агранамічнай працы атрымалі, надрукуем.

**Алекс. Бураку.** Газэту высылаем.

**Народнаму Дому ў Міры,** Рыгору Міхайлаву, Атрахімовічу Аркадзю—газэту пасылаем.

**Каспэру Ал.** — газэту высылаем на нова адрэс.

**К. Матусэвічу** — просім пісаць аб жыцьці вёскі, аб валасных парадках і інш.

**Дасталі:**

Ад: Бел. Студэнскага Клюбу ў Празе 20 кар. ад: Карпенюка Эўст.—4 зл.; ад Народнага Дому у Міры — 2 зл.; ад Казачука А. — 80 гр.

Ад: Лісіцы Якуба, Бандарчыка І., Кохана П., Туркоўскі М. Зайца Як., Лыковіча Ів., Сойкі М., Інчыка Н., Сокала Тр., Вераб'я М., Шымкі Ант., Кіселевіча Я., Чайкоўскага М., Баярскага Ант., Кульбакі Н,, Позьняка М., Сойчука А., Станкевіча Я., Пятровіча Н., Куліны А. Шышкі Ів. — **па 1 зл.**

## БІРЖА.

Вільня, 11.XII.

ВАЛЮТЫ.

Даляры. . . . . . . . 8.99 — 9.00½ зл.

ЦАНА ЗОЛАТА.

За залатыя рублі плацілі па . 4.78½—4.79 зл.

ЦАНА ЗБОЖА.

| | |
|---|---|
| Жыта за 100 кг. . . . . . . . . | — 42 зл. |
| Ячмень (браварк.) за 100 кг. . . | 33—34 „ |
| Авёс за 100 кл. . . . . . . . . | 34—35 „ |
| Пшаніца за 100 кг. . . . . . . . | 50—51 „ |

Варшава, 10.XII

| | |
|---|---|
| Жыта за 100 кг. . . . . . . . . . . | 38,75 „ |
| Ячмень бр. за 100 кг. . . . . . . . | 35,50 „ |



## У справе календароу.

У справе календароў трэба зварачвацца не ў „Сял. Ніву“, а ў галоўны Склад:

**Вільня, Зарэчча, Крывое Кола № 21—3.**

**І. Станкевіч.**

Рэдактар і выдавец Л. Міцька. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны.—Вільня, Людвісарская 1.